***Чуеш, як пяе народ,***
***як сталі песняй гнеў і боль?***
***Як набліжае сонца ўсход,***
***хто быць рабом не хоча больш?***
***Як мільёны сэрц вядзе***
***рытм барабанаў у крыві?***
***Ноч праміне й настане дзень…***
***Вольны край, жыві!***

***(Пераклаў на беларускую мову Андрэй Хадановіч)***

1. **ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД**
2. **ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ**
3. **СІМВОЛІКА**
4. **ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ**
5. **ГАЛАСЫ АСОБАЎ**
6. **МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ**
7. **РОЗНАЕ**

**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД



Музыкі Алег Карпенка, Сяргей Іваноў і Дзяніс Птушка, удзельнікі кавер-гурта ОК-band, які таксама меўся выступаць на канцэрце пад Смалявічамі 13 лютага, асуджаныя на 15 сутак, як і музыкі гурта «РСП»: Дзяніс Тарасенка, Павел Гарадніцкі, Андрэй Осіпчык і Аляксандр Кавалёў, а таксама музыкі Уладзь Лепяшынскі і Валерыя Сураўіцкая.

Усяго з затрыманых падчас канцэрта 44 чалавекі адбываюць па 15 сутак адміністрацыйнага арышту, а 15 чалавек былі аштрафаваныя на 870 BYN, сумарна гэта 660 сутак арышту і 13 050 рублёў.

17 лютага дадому да музыкаў гурта «РСП» прыходзіла міліцыя, рабілі агляд – шукалі пратэставую сімволіку.

16 лютага прайшлі масавыя ператрусы і затрыманні ў журналістаў і праваабаронцаў, агульная колькасць тых, да каго прыйшлі сілавікі, складае прынамсі два дзясяткі чалавек. Следчы камітэт патлумачыў гэта тым, што працягваецца расследаванне крымінальнай справы па арт. 342 (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) Крымінальнага кодэкса Беларусі.





Ігнат Сідорчык, паэт, рэжысёр і актор, палітвязень, які знаходзіўся за кратамі з 10 жніўня, абвінавачваны па ч. 1 арт. 342 (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх) выйшаў на волю з залі суда! Яму прысудзілі 3 гады абмежавання волі з адтэрміноўкай.



Фота: Гарадзенская Вясна

**Крысціну Палтавец – мастачку, якая малявала буслоў і надпісы «Жыве Беларусь» на розных аб’ектах Скідзеля і раёна, і Андрэя Апанасовіча, які часам падвозіў яе на машыне, прызналі вінаватымі ў «апаганьванні збудаванняў і псаванні маёмасці» і прысудзілі ім штрафы ў памеры 150 [4350 рублёў] і 100 [2900 рублёў] базавых велічынь адпаведна. У Крысціны канфіскавалі ровар, як «сродак, з дапамогай якога здзейснена злачынства».**

**Ігар Банцар – лідар гарадзенскага стрыт-панк-гурта Mister X, грамадскі і культурніцкі актывіст, знаходзіцца за кратамі з 20 кастрычніка па крымінальнай справе паводле артыкула 339 КК (Хуліганства), з 5 лютага ён знаходзіцца ў карцары, ад яго амаль не даходзяць лісты, а сям’я хвалюецца за яго здароўе.**






**Міколу Папеку, паэту, змянілі статус з падазраванага на абвінавачанага па «справе карагоду» ў Брэсце.**

**Паўлу Севярынцу, пісьменніку, палітыку, палітзняволенаму, яшчэ на 2 месяцы працягнулі тэрмін утрымання пад вартай.**



# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ

**Гарадзенскі бар ды арт-прастора «Третье место», якая ўдзельнічала ў агульнанацыянальным страйку, вымушана была зачыніцца 16 лютага: гарадскія ўлады запатрабавалі, каб арэндадаўца разарваў дамову з арандатарамі.**






**У Полацку экскурсіі, якія адбываюцца штонядзелю для жыхароў і гасцей гораду, праходзяць пад наглядам міліцыі.**

Фота: viciebskspring.org

**Антон Грышкевіч, рэжысёр і выкладчык Віцебскага дзяржаўнага каледжа культуры і мастацтваў, які 25 студзеня падаў заяву аб далучэнні да агульнанацыянальнага страйку, звольнены.**





Архіўнае фота

**Тамару Вяршыцкую, заснавальніцу музея габрэйскага супраціву ў Навагрудку, супрацоўніцу Навагрудскага краязнаўчага музея, звальняюць. Гэтаксама на пачатку красавіка не працягваюць кантракт старшай навуковай супрацоўніцы музея Галіне Кавальчук. Жанчыны мяркуюць, што прычына звальнення – экскурсіі, якія яны ладзілі па нядзелях і якія наведвалі асобы, асуджаныя па артыкуле 23.34.**

**Вольгу Семчанка, супрацоўніцу Магілёўскага драматычнага тэатра, звольнілі 18 лютага. Восенню 2020 года Вольгу некалькі разоў судзілі за ўдзел у акцыях пратэсту.**



Фота: Belsat




**Старонка ў інтэрнэце «Цудоўнай крамы» і яе ўладальніка Ігара Казмерчака былі ўзламаныя ў ноч з 18 на 19 лютага. Лагатыпы старонак былі замененыя на чырвона-зялёныя сцягі, былі апублікаваныя абразлівыя надпісы.**

# 3. СІМВОЛІКА





**Штраф за нацыянальны сцяг ва ўласным двары,**
**суд за здымак у інтэрнэце,**
**10 сутак за фота з бчб сцягам,**
**суд за мурал з вершнікам,**
**штраф 580 рублёў за бчб сцяг на падворку ўласнай хаты,**
**7 сутак арышту за «чырвоную хвалю» на балконе,**
**15 сутак за бчб шторы,**
**12 сутак за барэльеф з Пагоняй на доме –**
**і гэта далёка не ўсе пакаранні за нацыянальную сімволіку ў Беларусі.**











Фота: palesse.press



**Ігар Случак і Аліна Нагорная, актывісты, вядомыя змаганнем за пашырэнне беларускай мовы ў публічнай сферы, паведамляюць, што некалькі месяцаў запар да іх дома прыходзіла міліцыя і фатаграфала сцяг на падворку, а 21 лютага сцягі над іх домам скралі.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ



Новы выпуск <u>відэапраекта</u> «Словы мацней»: музыка **Леанід Паўлёнак** <u>чытае</u> верш **Уладзіміра Жылкі** «Палімпсест».




**Беларускі фонд культурнай салідарнасці** бярэцца за <u>выпрацоўку стратэгіі</u> культурных рэформаў для новай Беларусі. Узначаліць стратэгічны кірунак дзейнасці ў фондзе **Мікалай Халезін**, арт-дырэктар Беларускага Свабоднага тэатра і праграмны дырэктар Creative Politics Hub.




**Дзеячы і дзеячкі культуры** <u>запісалі відэазварот</u> у падтрымку **Кацярыны Андрэевай** і **Дар'і Чульцовай**.






Запіс канцэрта гурта «Мутнаевока», музыкі якога былі ці знаходзяцца ў зняволенні, быў паказаны 20 лютага ў рамках серыі «Артысты Перамогі». Падтрымаць артыстаў.

Ціхан Клюкач, палітзняволены, дасылае малюнкі з турмы.

Натхняльныя малюнкі Vera MoPer з серыі «Калі мы пераможам».








**Руфіна Базлова**, мастачка з Гродна, якая жыве ў Празе, стварае вышыванкі па матывах беларускіх пратэстаў.




Фота: racyja.com

У Гародні дзейнічае незалежны тэатральны рух «**Асобы**», які з’явіўся пасля звальнення з драматычнага тэатру актораў у мінулым годзе і да якога далучыліся акторы лялечнага тэатру і прадстаўнікі вольнай гарадзенскай сцэны.

**10 дакументальных фільмаў**
пра рэвалюцыйныя падзеі ў Беларусі.







З нагоды **Дня роднай мовы** больш за 80 экспертаў у галіне беларускай мовы і культуры, навукоўцаў, літаратараў ды іншых вядомых дзеячаў культуры падпісалася пад Адкрытым лістом, які апісвае становішча, у якое трапілі наша мова і нацыянальная культура, і акрэслівае ўмовы для самога існавання, адраджэння і росквіту беларускай мовы і культуры ў сучаснай Беларусі.

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Фота: Euroradio

**Вінцук Вячорка, мовазнаўца і палітык,**
**<u>пра беларускую мову</u>:**
***«Сапраўдная катастрофа прысутнасці беларускай мовы ў свядомасці беларусаў адбылася з панавання Лукашэнкі і лукашызму. Калі ў 1999 годзе 74% усіх жыхароў Беларусі назвалі беларускую мову роднай, то за 10 гадоў – усяго 53%, аж на 20% меней. Гэта абсалютна нечуваны, беспрэцэдэнтны бадай што для ўсяго свету спад, радыкальная змена ў свядомасці на працягу нават не пакалення, а паловы пакалення ці трэці пакалення. Так, як правіла, не бывае, каб людзі мянялі сваю моўную свядомасць і моўныя паводзіны. Гэта значыць, што яны прыстасаваліся да новай моўнай палітыкі дзяржавы».***



Фота: svaboda.org

**Ганна Севярынец, пісьменніца, літаратуразнаўца, настаўніца,**
**<u>пра стратэгію перамогі</u>:**
***«Калі ўлетку падавалася, што вось-вось нехта стане апошняй сняжынкай, і лавіна нашай перамогі сыдзе, то цяпер у выніку лютага супраціву сістэмы і таго, што мы недзе пралічыліся, гэтая сняжынка можа ўпасці альбо на гэты бок, альбо на той. У нас цяпер няма нічога ні звонку, ні знутры, мы ўсе на гэтых шалях. І кожны з нас можа дадаць сваю сняжынку на наш бок, на бок дабра і святла, а можа і туды. І пераможа цяпер той кот, які не адвядзе вачэй, і той чалавек, які вытрымае позірк, які вытрымае гэтае супрацьстаянне».***



Фота: citydog.by

**Аляксей Стрэльнікаў, тэатральны крытык і рэжысёр, звольнены з Акадэміі мастацтваў за ўдзел у забастоўцы, за што падаў на ўніверсітэт у суд, які прайграў.**
***«Я адчуваю, што праўда на маім баку. Мне радасна ведаць, хто менавіта ўстаў супраць мяне, а хто падтрымаў. Вось гэтая падтрымка велізарнай колькасці людзей (дзякуй вам за яе!). У гэтым ёсць мая перамога.***
***Нам усім патрэбныя гэтыя суды, нам усім трэба рэалізоўваць свае права на праўду і справядлівасць. Таму што гэта маральныя катэгорыі, якія мы адчуваем сэрцам, якія не адмяніць рашэннямі судоў».***



Фота: nn.by

**<u>Апошняе слова</u> Кацярыны Андрэевай, журналісткі, аўтаркі кнігі «Беларускі Данбас», якую (разам з аператаркай Дар'яй Чульцовай) асудзілі на два гады зняволення за трансляцыю, падчас якой яны паказалі жорсткі разгон акцыі памяці забітага Рамана Бандарэнкі 15 лістапада.**

***«У мяне ёсць маладосць, любімая прафесія, поспех, вядомасць, а галоўнае – чыстае сумленне. І свае сілы я хачу накіраваць выключна на стварэнне ў Беларусі, на служэнне ёй. Беларусі, дзе не будзе месца палітычным рэпрэсіям, дзе не будуць пераследаваць за сумленную журналістыку, за праўду».***

**Ігар Бабкоў, філосаф, пісьменнік.**

***«<u>Беларусь сёння</u> — ёсць лабараторыяй будучыні, у якой шукаюцца адказы на самыя важныя пытанні сучаснага жыцця. Як аказалася, у гэтых адказах маем патрэбу не толькі мы, але і ўвесь свет».***



Фота: reform.by



Courtesy photo

**Святлана Воцінава, звольненая галоўная рэдактарка часопіса «Маладосць».**

***«Так, <u>я страціла калектыў</u>, у якім мы ўсе былі аднадумцамі. Але я зразумела, што я пазбавілася ад цяжару, які суправаджаў гэтую працу, ад гэтага маральнага прыгнёту, ад гэтых усіх невырашальных праблем…»***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Праваабарончыя і культурніцкія міжнародныя арганізацыі асуджаюць дзеянні беларускіх уладаў і патрабуюць спынення рэпрэсій у дачыненні да дзеячаў культуры, а таксама журналістаў, праваабаронцаў і беларускай грамадзянскай супольнасці.**

**Заява Міжнароднага ПЭН-клуба**

**Заява Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў**

**Заява Amnesty International**

**Заява International Media Support**

**Заява ПЭНа Нарвегіі**

**Заява праваабарончай арганізацыі ARTICLE 19**

**Заява ПЭНа Амерыкі**

**Заява ПЭНа Масквы і Асацыяцыі «Свабоднае слова»**




Выставу «**Страна для лжизни**» ладзяць беларусы Санкт-Пецярбургу з 20 лютага па 12 сакавіка. Яна паказвае, як «абяцаная дзяржава сацыяльнай справядлівасці ператварылася ў “**Краіну для Жыцця**“».





Дэпутатка Еўрапарламента **Карын Карлсбра** (Шведская ліберальная партыя) падтрымала ініцыятыву Беларускага фонда культурнай салідарнасці аб пазбаўленні Белтэлерадыёкампаніі магчымасці ўдзельнічаць у Еўрабачанні-2021.

EUROVISION SONG CONTEST




Песня «**Муры**» загучала па-чэшску ў падтрымку беларусаў.



У Вільні праходзіць выстава фатографак жаночага беларускага пратэсту.




Да **Дня роднай мовы** беларусы запісваюць відэа вершы, а дыпламаты ЕЗ, Вялікабрытаніі, Швейцарыі, ЗША і Японіі абралі беларускія словы, якія ім найбольш даспадобы, на якія найбольш адгукаецца сэрца гэтымі днямі.

# 7. РОЗНАЕ

Паэт Юлій Ільюшчанка расказаў пра жудасныя ўмовы ў ізалятары горада Жодзіна, куды ён трапіў на 25 сутак.

*«У мяне пацверджаны кавід, а значыць, ён ва ўсіх, хто са мной сядзеў у Жодзіне. Нас фактычна прымусова заражалі. Першыя 3-4 дні ў камеры не адчынялі фортку, мы проста дыхалі і пацелі як селядцы».*



Amnesty International распавядае пра тое,
як дзяржаўныя рэпрэсіі, якія рушылі за пратэстамі
супраць вельмі спрэчнага перавыбрання Аляксандра Лукашэнкі
на пасаду прэзідэнта,
уздзейнічаюць на культурнае жыццё ў Беларусі.

